# БЕЛАСТОЦКАЯ НАВУКА—ДАСЯГНЕННІ І ПЕРСПЕКТЫВЫ

26 кастрычніка адбыўся ў Беластоку чарговы справаздачна-выбарчы з'езд Беластоцкага навуковага таварыства. З'езды БНТ адбываюцца раз на 3 гады і з'яўляюцца падсумаваннем працы навуковага таварыства, а таксама вызначаюць яны напрамкі дзейнасці таварыства на наступны перыяд.

Справаздачу аб дзейнасці Беластоцкага навуковага таварыства зрабіў яго старшыня праф. Тадэвуш Цесляк. Таварыства налічвае 223 члены, згуртаваны ў 15 рознага роду праблемных камісіях. Пасобныя камісіі БНТ займаліся рознымі навуковымі праблемамі, тэрытарыяльна звязанымі з Беласточчынай.

Найбольш разгорнутую дзейнасць у Беластоцкім навуковым таварыстве ад моманту яго ўзнікнення вядуць археолагі. У мінулым справаздачным перыядзе, як і раней, праводзілі яны доследы над праблематыкай славянска-балтыйскага пагранічча ў I і II тысячагоддзі новай эры на паўночна-ўсходніх акраінах Польшчы. У рамках прац БНТ вяла таксама свае працы група вучоных са Швецыі пад кіраўніцтвам прафесара Кнута Фалька, якая даследавала сляды па плямёнах яцвягаў на Сувальшчыне.

Камісіі навейшай гісторыі і ваеннай гісторыі працавалі над рознымі праблемамі міжваеннага дваццацігоддзя і пасляваеннай гісторыі Беласточчыны. У рамках працы камісій напісана і выдадзена некалькі кніжак, як, напрыклад, кніжка др Г. Маецкага аб станаўленні народнай улады на Беласточчыне або кніжка З. Каштэлы аб ваеннай кампаніі 1939 года на Беласточчыне.

Цікавыя таксама працы педагагічнай камісіі БНТ. У рамках гэтай камісіі былі праведзены доследы над эфектыўнасцю навучання ў спалучаных класах у школах Беласточчыны, над эфектыўнасцю працы педагагічных навучальных устаноў Беласточчыны і над фактарамі павароту злачынцаў да нармальнага жыцця. Эканамічная камісія працавала над напрамкамі гаспадарчага развіцця Беластоцкага ваяводства, а прыродазнаўчая камісія даследавала стан аховы прыроды ў нашым ваяводстве. Мовазнаўчая камісія пад кірункам праф. Антаніны Яблонскай надалей даследавала беларускія гаворкі Беласточчыны.

Працы вучоных і даследчыкаў, рэч зразумелая, маюць сэнс толькі тады, калі вынікі гэтых прац паяўляюцца ў друку. Беластоцкае навуковае таварыства выдае свой пастаянны орган — гадавік «Acta Baltico-Slavica», а таксама шэраг іншых рознага роду кніжных выданняў. Не буду іх тут пералічваць, паколькі ў мінулых гадах было іх параўнальна многа. Варта напомніць аб кніжках, якія Беластоцкае навуковае таварыства апублікуе ў бліжэйшы час. Будзе гэта перш за ўсё кніжка А. Барвюка аб зменах структуры гаспадаркі Беластоцкага ваяводства ў гадах 1950—1960, кніжка Я. Бардаха аб гісторыі права Вялікага Княства Літоўскага, праца С. Ханкоўскага аб студзеньскім паўстанні ў Аўгустоўскім павеце, эканамічныя працы БНТ і шэраг іншых прац.

Падчас справаздачна-выбарчага з'езду Беластоцкага навуковага таварыства з дакладам выступіў намеснік старшыні прэзідыума Ваяводскай рады народовай у Беластоку Рамуальд Лазаровіч. У выступленні сваім указаў ён на неабходнасць шырэйшага зацікаўлення навукі праблемамі Беласточчыны. Вынікае гэта з неабходнасці перамагчы ўсё яшчэ выступаючую ў шэрагу галін нашага жыцця адсталасць Беласточчыны ў параўнанні з іншымі ваяводствамі краіны. Р. Лазаровіч указаў на асноўныя напрамкі навуковых доследаў, развіццё якіх было б вельмі карысным для далейшых гаспадарчых перспектыў Беласточчыны. З'яўляюцца імі перш за ўсё дакладныя геаграфічныя доследы для патрэб больш планавага загаспадарання геаграфічнай прасторы Беласточчыны, а таксама для патрэб сельскай гаспадаркі — як, напрыклад, правядзенне меліярацыйных прац. Важнымі таксама з'яўляюцца доследы над дэмаграфічнай структурай ваяводства, над аховай прыроды, над праблемамі культуры, над гістарычным мінулым ваяводства і г.д. Каб выканаць усе заданні, якія стаяць перад беластоцкай навукай, улады ваяводства лічаць неабходным стварыць Асяродак навуковых доследаў, у якім будуць працаваць штатныя работнікі — працаўнікі навукі, распрацоўваючы розныя істотныя праблемы нашага ваяводства.

З'езд выбраў новыя ўлады таварыства. Старшынёю застаўся праф. Тадэвуш Цесляк.

*У. Паўлючук*

# ДОКТАРСКАЯ ПРАЦА АБ НАШЫХ НАЗВАХ

10 лістапада 1970 года Вучоны савет Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук зацвердзіў навуковую ступень доктара філалагічных навук супрацоўніку працоўні беларускай філалогіі Міхалу Кандрацюку. Абарона яго дысертацыі пад загалоўкам «Мясцовыя назвы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны» адбылася 7 кастрычніка гэтага года. Апрача супрацоўнікаў Інстытута на абарону прыйшлі, зацікаўленыя тэмай, людзі іншых спецыяльнасцей (паланісты, гісторыкі і інш.). Пасля выступлення прафесара, кіруючага працай (праф. А. Абрэмскай-Яблонскай) і апанентаў пачалася жывая дыскусія. Выказваліся не толькі спецыялісты па тэме, але і госці, што прыйшлі паслухаць абарону. Пасля дыскусіі выступіў дактарант, які даў грунтоўны адказ на пытанні і заўвагі.

Жывая дыскусія сведчыць аб вялікім зацікаўленні працай, якая дае не толькі моўны аналіз сабранага матэрыялу, але выясняе гістарычнае паходжанне мясцовасці (вёскі ці хутара) і растлумачвае, адкуль узялася назва, што яна абазначала і як змянялася на працягу стагоддзяў. Зараз Кандрацюк рыхтуе сваю доктарскую працу да друку. Уважлівыя чытачы «Нівы» напэўна ўжо ведаюць М. Кандрацюка па артыкулах пра паходжанне назваў Бельск і Гайнаўка, якія два гады таму назад ён змяшчаў у гэтым тыднёвіку. На тэму мясцовых назваў ён пісаў таксама ў навуковым перыядычным друку («Slavia Orientalis», «Acta Baltico-Slavica»).

Апошнія 9 год, у часе летняга адпачынку, М. Кандрацюк займаўся запісваннем мясцовых назваў для Камісіі па ўстанаўленні назваў мясцовасцей і фізіялагічных аб'ектаў пры Савеце Міністраў. Апрацоўкай назваў ён заняўся пераважна таму, што ў сваёй працы і ў сваёй роднай мясцовасці на Гайнаўшчыне не раз даводзілася пачуць пытанне, чаму тая ці іншая мясцовасць менавіта так называецца і адкуль узялася гэтая назва.

Апрача названай працы Міхал Кандрацюк займаецца тэмай польска-беларуска-украінскіх і славянска-балтыцкіх моўных уплываў. У працоўні беларускай філалогіі, разам з іншымі супрацоўнікамі, навукова апрацоўвае беларускія гаворкі ўсходняй Беласточчыны.

*М. Чурак*

# МОН І ЯГО КНІЖКІ

Выстаўка кніжкі. Багатая. Тэматыка: літаратура грамадска-палітычная. Экспануецца тут 500 кніжак выдавецтва MON за ўсе 25 год народнай улады. Выстаўка была адкрыта ў пачатку дэкады грамадска-палітычнай кніжкі ў Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Дзейнічаць будзе ўвесь снежань, а калі спатрэбіцца, то і даўжэй.

Выстаўку варта наведаць. Многа карысці будзе мець з яе школьная моладзь. На месцы на выстаўцы жадаючыя могуць адразу купіць кніжкі MON-у. Яшчэ раз выясняем, што выдавецтва MON (Міністэрства нацыянальнай абароны) спецыялізуецца ў выдаванні літаратуры ваеннай і партызанскай.

(вл)

# ПРАЦАВІТЫ ГРАМАДСКІ КАМІТЭТ

Грамадскі камітэт ПАРП у Зубках (Беластоцкі пав.) збіраўся на сходы ў мінулай кадэнцыі 28 разоў. На сходах быў прааналізаваны ўдзел членаў ПАРП у занятках па партыйнай падрыхтоўцы, зборка грошай на СФБШіІ (Грамадскі фонд будовы школ і інтэрнатаў), унутраныя справы партарганізацыі, выкананне сельскагаспадарчых планаў і г.д. Высока была ацэнена праца перадавых гаспадароў: Сяргея Грыгорчука з Мастаўлян, Аляксея Шапеля з Хамантоўцаў і Яўгенія Пацкевіча з Нарэек.

(яц)



# ПАСЛЯ ПЛЕНЕРУ

У традыцыю ўвайшлі ўжо белавежскія пленеры, на якія прыязджаюць мастакі з усяе Польшчы, а нават з усяго свету. Малююць яны тут свае карціны і выконваюць разьбу па дрэву, а гэта потым разыходзіцца па ўсім свеце, расслаўляючы белавежскі пейзаж.

Нядаўна ў Беластоку, у абшырнай зале Беластоцкай Медыцынскай акадэміі адбылася выстаўка разьбы белавежскага мастацкага пленеру. На выстаўцы было многа вельмі цікавых прац розных стыляў і мастацкіх напрамкаў — ад чыстага рэалізму да чыстай абстракцыі, ад жаху і суму да сонечнай радасці.

(п)

*На здымку: мастакі белавежскага пленеру падчас працы.*

*Фота Цаф — Сянько*

# ПРА ОРЛЮ НЕ НАЙЛЕПШ

Орля не з'яўляецца звычайнай вёскай. Орля належыць да асаднічага тыпу, які дасціпныя і слаўныя гарадоцкія жанчыны акрэсліваюць: «не горад і не вёска». А фактычна гэта асада, цяпер ёсць там каля паўтары тысячы жыхароў.

Выкарыстанне багатых залежаў гліны спрыяе тут развіццю дробнай прамысловасці — вырабу кафляў, пустакоў, цэглы. Рабочыя выводзяцца з мясцовых людзей, пераважна дробных гаспадароў. Гаспадаркі абрабляюць жонкі, а мужчыны складаюць «арлянскі рабочы клас». Адгэтуль яшчэ адно акрэсленне Орлі і яе жыхароў — «не гаспадары і не рабочыя», а паводле новых акрэсленняў «хлопа-рабочыя».

Орля па свайму палажэнню і памерах мае права быць цэнтрам грамадска-культурнага жыцця вялікай ваколіцы. Амбіцыі такія выступалі ў Орлі ўжо даўно і дрэмлюць дагэтуль. Толькі што за ўсе мінулыя гады не змог вырасці і скрышталізавацца тут ані рабочы, ані маладзёжны, ані жаночы, ані ніякі іншы, авангард. Не выявіліся ўпартыя групы энтузіястаў, якія б глыбока і пастаянна аралі арлянскую грамадска-культурную глебу.

Жыве ў Орлі і далёка за ёю памяць верная пра людзей, якія не маглі задавальняцца тым, што самі ўмелі многа. Зрываліся да лёту, прабавалі гуртаваць вакол сябе актыўныя элементы, якіх і цяпер у Орлі нямала, але якія цяпер заснулі ў зацішшы і маўчанні.

Былі часы славы арлянскай, калі працавалі ў Орлі многія напрамкі і формы культурнай дзейнасці: ставіліся п'есы, гучэлі інструменты розныя ў руках здольных арлянцаў, а галасы арлянскія і песні іхнія слухалі людзі з уздымам. Такая праца спаўняла ў змешанай Орлі (з якіх толькі бакоў свету не пасяліліся тут людзі!) ролю інтэграцыі і яднання сіл і дум.

Жывуць у Орлі людзі тыя, што прымалі ўдзел ў даўнім энтузіястычным уздыме. У Орлі і цяпер пытаюцца некаторыя часам, ці не робіцца, ці не арганізуецца што? Яны б прылучыліся. Але мінула (няўжо не вернецца?) эпоха людзей-адзінак неспакойных, якім хацелася ўзняць усіх. А сілы супольнай, грамадскай Орля не вырасціла. Якраз у галіне грамадска-культурнай жыццё Орлі раздзіраюць нязгоды і спрэчкі. Няма выпрацаванай праграмы дзеяння. Найбольш гэтыя споры канцэнтруюцца вакол дома культуры — 70-цігадовага спарахнелага драўлянага будынка. Будынак не малы і толькі пастаянныя рамонты ўтрымліваюць яго жыццё. У гэтым доме культуры працуе 3-ое штатных культурных працаўнікоў — тры жанчыны: клубовая «Руху», светліцовая і бібліятэкарша. Гэты жаночы трыумвірат вельмі нязгодны паміж сабой і ніхто з яго не хоча іншаму прызнаць рацыі. «Безупынна грызуцца паміж сабой», — пачула я ў Орлі не ад звычайнага прахожага.

Сакратар ГРН Ілья Сакалоўскі: «Я згодны, што ГРН тут гаспадар, але да мяне таксама начальнікі як збягуцца, то заганяць у кут. Моладзь хоча, каб большую кавярню ім даць. А я як справу моладзі згану, то мяне трасе. Тая наша моладзь непаважная. Усё толькі дай, дай і дай, а як грамадска што трэба зрабіць, то яе няма».

Прадстаўнік арлянскай моладзі, затэхнік Уладзімір Кубаеўскі кажа: «Там у кавярні іграюць у карты, і то ў дурня, бо лепшага нічога не ўмеюць. Заглянеш, сядзіць пару чалавек, нават не ўсе 8 столікаў заняты. Навошта большая кавярня патрэбная?»

Сакратар Сакалоўскі: «Інструктара дай, кажуць. ГС даў грошы на інструктара, у новым годзе зноў дасць, толькі каб знайшліся ахвотныя працаваць і арганізаваліся».

Арлянскі дом культуры не вабіць прытульнасцю. Клуб «Руху» — адзінае ў ім найбольш эстэтычнае месца. Бібліятэчны пакой у рамонце. Найбольшая зала дома культуры належыць нібы да святліцы. Адбываюцца ў ёй акадэміі і розныя сходы. Выгляд яе не гаспадарскі, няўтульны, голыя сцены, брыдка. Па справе гэтай залы прыязджалі павятовыя ўлады, каб пасля рамонту перанесці сюды клуб «Руху». Гэтаму вельмі моцна супраціўляецца арлянская светліцовая, хоць цяжка зразумець сэнс існавання клубу і святліцы пад адным дахам. Калі заданні клубу ясныя, то святліца — як культурная ўстанова, зусім страціла воблік культурнасці і ўсялякага сэнсу існавання. Праца святліцы замыкаецца ў брудных шафах, з паломанымі часта інструментамі і рэшткамі ўбораў, бруднай каляровай паперы і павуціннем у кутках. З гэтакай асновы выходзячы, калі гавару ўжо пра Орлю канкрэтна, не бачу тут рэальнай патрэбы існавання эфемерычнай святліцы побач з такой сучаснай культурнай установай, як клуб «Руху». Трэба ў Орлі перастаць спорыць, спалучыць сілы і сродкі. Клуб вядзе (ёсць многа прыкладаў на гэта) і можа павесці розную і добрую культурна-грамадскую і выхаваўчую працу. Абы ахвота! У Орлі аднак, паўтараю, няма цяпер актыўнай групы, якая ведала б, чаго хацець, якой культуры хацець і якую рэалізаваць праграму.

*Вера Леўчук*

 




коў зацікаўлення для дзяцей, а таксама цяжкасцям з атрыманнем фінансавых сродкаў на аплачванне дырыжора, які мог бы весці ў Орлі харавы калектыў.

Удзел членаў Беларускага таварыства ў грамадскіх чынах з'яўляецца таксама вельмі важнай справай. Грамадскай калектыўнай працай можна зрабіць многа карыснага. Старшыня 83-асабовага гуртка БГКТ з вуліцы Горнай у Гайнаўцы Уладзімір Суліма расказваў аб тым, як члены нашага таварыства, атрымаўшы драўляны будынак, які быў прызначаны да разбірання, будавалі школу, а з былога школьнага памяшкання зрабілі клуб.

У дыскусіі выступалі яшчэ: Мікалай Матэйчук з Гарадка, Сцяпан Рышчук з Рагачоў, Мікалай Краўчук з Патокі і Ольга Падлашчук — прадстаўнік ваяводскага праўлення Саюза вясковай моладзі.

Прыемна сцвярджаць той факт, што старшыні гурткоў — маладыя людзі і многа сярод іх настаўнікаў, кіраўнікоў клубаў і працаўнікоў рад нарадовых. І падчас дыскусіі ў гэтых людзей адчувалася адказнасць за дзейнасць БГКТ.

На гэтай канферэнцыі сакратар ГП Янка Зенюк для старшынь найлепш працуючых гурткоў БГКТ уручыў грашовыя ўзнагароды, прызнаныя прэзідыумам Галоўнага праўлення па прапанове аддзелаў. Атрымалі ўзнагароды наступныя старшыні: Кастусь Грыц з Гайнаўкі, Уладзімір Суліма з Горнага, Аляксей Сяльвесюк з Махнатага, Іван Ціванюк з Лукі, Язэп Навіцкі са Скупава, Анатоля Самойлюк з Лянева, Галена Тапалянская з Трасцянкі, Мікалай Куптэль з Літвінавіч, Сяргей Крэйза з Мілейчыц, Сяргей Арэшчук з Клюковіч, Мікалай Раманюк з Дубяжына, Іван Сцепанюк з Локніцы, Вера Калішук з Маліннік, Валя Андрэюк з Рыбалаў, Мікалай Раманюк з Кожына, Рамуальда Малішэўская з Сухініч, Уладзімір Парфенюк з Новага Вострава, Ірэна Макарэвіч з Крапіўнай, Лявон Шчэрбач з Хілімонаў, Рыгор Лісавец са Скраблякоў і Зіна Тамашэвіч з Круглага Ляска.

У мастацкай частцы дала канцэрт эстрада ГП «Лявоніха».

*Міхась Сваяк*




Паявіўся ўжо ў кіёсках снежаньскі нумар.

Ад восені 1939 года да лета 1941 года шматзначная частка цяперашняга Беластоцкага ваяводства знаходзілася ў межах БССР. Гэта багаты падзеямі, аднак слаба яшчэ даследаваны перыяд нашай гісторыі. Дык варта тады ўважна прачытаць артыкул Зэнана Вільчэўскага — *«Беластоцкі друк у гадах 1939 — 1941»*. Аўтар на аснове аналізу захаваных нумараў газеты *«Вольна праца»*, якая тады выдавалася ў Беластоку на польскай мове, падае шмат цікавых фактаў пра тагачаснае жыццё Беласточчыны. Аказваецца, напрыклад, што ў 1940 годзе ў Беластоку дзейнічала аж 6 тэатраў, што пад канец 1939 года (у момант нацыяналізацыі) у Беластоцкай акрузе існавалі 174 тэкстыльныя фабрыкі.

К. Клаўр крытычна ацэньвае кніжку рэпартажаў Ежы Лёвэля пра нацыянальныя меншасці, пражываючыя ў Польшчы. У гэтай кніжцы знаходзім таксама рэпартаж і пра беларусаў, гродненскі гісторык, дацэнт Б. Клейн папаўняе весткі пра Ігната Грынявіцкага, які ў 1881 годзе забіў цара і сам пры гэтым загінуў; Г. Валкавыцкі ў рубрыцы *«Палёніка ў суседзяў з-за мяжы»* піша пра беларускія зацікаўленні этнографа Оскара Кольберга, пра нарысы Барыса Клейна аб сувязях Бакуніна з палякамі, пра новую аповесць М. Машары *«Ішоў 20-ты год»*, аб поспехах польскіх фільмаў на Беларусі і аб пабыўцы беларускага гісторыка мастацтва Леаніда Дробава ў Польшчы і аб яго пошуках малюнкаў беларускіх мастакоў.

У літаратурнай частцы *«Кантрастаў»* знаходзім узнагароджанае ІІ-ой узнагародай на VI беластоцкім літаратурным конкурсе апавяданне Збігнева Шчалкоўскага. (вр)




кае, што ў мінулым гаспадарчым годзе сяляне Белавежскай грамады ў сярэднім нават перавыканалі план прымянення штучных угнаенняў. Вось дзякуючы высокім дозам мінеральных угнаенняў селянін Уладзіслаў Шляхцюк з вёскі Пагарэльцы ў мінулым, не найлепшым на ўраджай гаспадарчым годзе дабіўся аж 31-го цэнтнера аўса з гектара, а яго сусед Мікалай Майсеюк меў аж 34 цэнтнеры аўса з аднаго гектара. Не горш ад іх гаспадараць: Уладзіслаў Смактуновіч — таксама з вёскі Пагарэльцы; Павел Вішнеўскі, Васіль Артэмюк, Мікалай Смактуновіч і Балеслаў Артэмюк з вёскі Тэраміскі; Сяргей Вашкевіч, Ян Антыпюк, Мікалай Бушко і Пракседа Дацкевіч са Стачка; Юры Пякач і Павел Хілецкі з Падалянаў. Усе яны ў 2—3 разы перавыканалі сваю норму па прымяненню штучных угнаенняў.

Але побач іх, па-суседску з імі, жыве амаль 150 гаспадароў, якія абыякава адносяцца да сучасных метадаў інтэнсіўнага гаспадарання. Прэзідыум і радныя хацелі б, каб было інакш, каб іх аднавяскоўцы з кожным годам жылі ўсё лепш.

Радны Аляксандр Краўчук гаворыць:

— Аднойчы атрымаў я з нашага ГС-у 12 кілаграмаў хімікатаў для запраўкі насення, каб распрадаць іх сярод гаспадароў. Толькі гаспадары паспелі ўжо раней пасеяць сваё збожжа — вядома, без запраўкі, ГС спазніўся.

Радны Нестар Бушко на аснове ўласнага вопыту заахвочваў гаспадароў да штучных угнаенняў.

І гэта добра, што суседства праслаўленай турыстычнай жамчужыны не засланяе ім вачэй на справы ад хлява і гумна. Гэтае суседства нават становіцца вельмі дакучлівае для гаспадароў з Белавежскай грамады. Дзікія звяры — кабаны, алені, зубры — топчуць і выядаюць ім пасевы і бульбянікі.

Дык вось якое яно, другое аблічча Белавежы. Не гаманлівае і не захапляючае, далёкае ад навейшых «фіятаў» і «мерседэсаў», чужое шматколернай замежнай модзе — яно працавітае і заклапочанае. Аднак яно кшталтуе і вызначае будучыню гэтага прыгожага кутка нашай краіны. *М. Нурэцкі*

Пачатак на стар. 1

# КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЧАЛАВЕКА

калісьці гітарай. Побач Ніна Цыванюк, яе першая, непадкупная і выпрабаваная сяброўка.

— А што Цыванючка спявае тут?

— Дэкламуе верш, Цыванючка добра дэкламуе. А тады быў верш Купалы «За свабоду сваю». І не спыняючыся, толькі голас стаў урачыстым, Ніна Мушынская працягвае: «За свабоду сваю ўсёй душой пастаю! І ў агонь і ў ваду я за ёю пайду...»

На стале пахне чорная кава і смакавітае яблычнае хатняе пячэнне. Гаспадыня частуе сардэчна.

— Як прарочыце сабе, пані Ніна, будучыню?

— У мяне ахвота на будучыню ёсць вельмі вялікая. А задум і думак — колькі іх у галаву лезе! Каб усе іх я магла ажыццявіць, то было б цудоўна, не толькі добра. Не думаю адыходзіць, толькі не ведаю, што людзі скажуць. Каб усе былі такія, як Цыванючка Нінка. Яна, як трэба, то ўсё зробіць, толькі давай. Некаторыя замнога чакаюць, без энтузіязму жывуць. Я не люблю людзей без энтузіязму і лянівых.

На 15-годдзе Беларускага таварыства я напісала новыя частушкі. Мо завострыя будуць? То наша неспадзянка на юбілей таварыства.

Розныя і шматлікія былі грамадскія функцыі ў Ніны Мушынскай, цяжка іх пералічыць. Называе, на яе думку, найважнейшыя: член павятовага і ваяводскага камітэтаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі, член павятовага і ваяводскага праўлення Лігі жанчын, член павятовага праўлення Фронту адзінства народа, член Камітэта абаронцаў міру, была на міжнароднай канферэнцыі міру ў Варшаве, член прэзідыума і праўлення БГКТ. Была членам Галоўнага праўлення і актыўным дзеячом Саюза сялянскай самапомачы.

Мушынская не ўмее гаварыць пра сябе. Гаворыць пра ўсіх разам. Гаворыць пра супольныя дасягненні. Цяжка ўлавіць яе адзіночную ролю ў грамадскім, культурным і гаспадарчым жыцці Гарадка, хоць роля такая была. А мо і не патрэбна вылаўляць, што рабіла і зрабіла Мушынская адна, калі яна сама, з якога боку не запытай, адкажа: мы арганізавалі, мы спявалі, мы будавалі, мы вучыліся. Вылічыць пры тым вам усе прозвішчы людзей, якія правінуліся праз багатую 25-цігадовую, новую гісторыю Гарадка над Супраслю-ракой, на прасторнай Беластоцкай зямлі.

*Вера Леўчук*

# НОВАЕ Ў ЗБОЖЖА-МЛЫНАРСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

Ваяводскае прадпрыемства збожжамлынарскай прамысловасці «ПЗЗ» у Старасельцах адно з першых у нашай краіне прыступіла да выконвання праграмы рэканструкцыі збожжа-млынарскай прамысловасці. Пачаўшы ад ліпеня 1967 года, пачало яно пераймаць у сваё распараджэнне меншыя прадпрыемствы падобнага тыпу. І так, падпарадкавалася яму прадпрыемства па апрацоўчай збожжавай прамысловасці ў Старасельцах, збожжавае прадпрыемства ў Бельску Падляшскім і іншыя. У далейшым пад распараджэнне ВП ПЗМ «ПЗЗ» пяройдуць прадпрыемствы збожжавай прамысловасці ў Граеве і Сувалках.

У апошнія гады будуецца многа новых аб'ектаў па збожжа-млынарскай прамысловасці. І так, пабудаваны збожжавы элеватар у Граеве, будуецца элеватар у Сувалках, разбудоўваецца элеватар і мадэрнізуецца завод пашаў у Старасельцах. Апрача гэтага, пабудаваны збожжавы склад з сушарна-разгрузачным пунктам у Грабове, а таксама праведзена механізацыя многіх складаў і закуплена шмат самахадовых вагаў. *Янка Нараўскі*




# У ГРАМАДЗЕ ЗУБКІ

Грамада Зубкі (Беластоцкі павет) выканала свой план кантрактацыі збожжавых культур у 125 працэнтах. Планавана закантрактаваць 540 га, а закантрактавана 736 га.

План закупу мінеральных угнаенняў на 1970 год выкананы ў 96 працэнтах (закуплена 363 тоны ўгнаенняў). Найбольш угнаенняў выкупілі жыхары Вераб'ёў, Зуброў, Скраблякоў, Нарэек і Мастаўлян. Збожжавыя культуры далі ў грамадзе ўраджай у колькасці 14 цэнтнераў з 1 га, а бульба — 150 цэнтнераў з 1 га.

Павысілася колькасць буйнай рагатай жывёлы да 861 штукі, свіней да 2456 штук, авечак да 1686 штук. Запланавана тут аднаўленне бульбы Флісакам, Эпохай і Уранам у вёсках Свіслачаны і Вераб'і. (яц)




# „КОНРАД ВАЛЕНРОД" ПА-БЕЛАРУСКУ

Нядаўна на старонках мінскай газеты «Літаратура і Мастацтва» з вялікай прыемнасцю мы прачыталі:

*«Імя Пятра Бітэля добра вядома нашым чытачам. Ён вясковы настаўнік. Некалькі гадоў таму назад пераклаў паэму Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і «Гражына». Сёння прапануем урывак з новага перакладу П. Бітэля — раздзел з гістарычнай паэмы А. Міцкевіча «Конрад Валенрод».*

Сказ гэты, на жаль, так пабудаваны, што дакладна невядома ці Пятро Бітэль пераклаў цэлую паэму «Конрад Валенрод», ці толькі — як іншыя яго папярэднікі — нейкую частку гэтай паэмы. Будзем аднак аптымістамі.

Узровень і багацце кожнай нацыянальнай культуры засноўваецца не толькі на творчай спадчыне самых выдатных яе прадстаўнікоў. Узровень і багацце яе таксама праяўляецца і ў тым, у якой меры магла яна прысвоіць сабе шэдэўры сусветнай культуры.

Сярод гэтых шэдэўраў, напэўна, не апошняе месца прыпадае твору Адама Міцкевіча *«гістарычнай аповесці з дзеяў літоўскіх і прускіх «Конраду Валенроду»*.

145 год прайшло ад таго часу, калі аўтар ковенскіх «Дзядаў» пачаў у Адэсе працу над новай паэмай. Сталася яна тады палітычнай праграмай маладых бунтароў, а пасля «Конрад Валенрод» паспяхова абараніўся ад знішчальнага ўздзеяння часу. Юльюш Кляйнер, выдатны даследчык польскай літаратурнай спадчыны, піша: *«У сусветнай літаратуры Валенрод мае права на выключнае становішча як адзін з найбольш трагічных герояў, як самае высокае ўвасабленне высакароднага чалавека, які вымушаны ўступіць на шлях злачынства, як паэтычнае адлюстраванне духа эпохі загавораў, як гімн на хвалу пакутніцкай любві да айчыны і на хвалу народнай паэзіі»*.

Вось у гэтым заключаецца заўсёды жывая вартасць гэтай гістарычнай паэмы Адама Міцкевіча. Яна славіць любоў да айчыны, узвышае народнасць, спалучае ў адно шчасце адзінкі і шчасце народа.

Таму паэма «Конрад Валенрод» хутка заваявала сусветную славу. На сваіх родных мовах яе чыталі: *«англічане, балгары, чэхі і славакі, французы, іспанцы* (пераклад на Кубе), *караімы, літвіны, латышы, лужычане, немцы, армяне, рускія, серба-харваты, шведы, украінцы, венгерцы, італьянцы, яўрэі, ды яшчэ ўсе тыя, хто ведае лацінскую мову»*.

Сярод гэтага рэестру, на жаль, не хапае нашай роднай мовы. За пераклад *«Конрада Валенрода»* браліся самыя знатныя волаты беларускай паэзіі. Янка Купала ў сваім зборніку з 1913 года *«Шляхам жыцця»* змясціў «конрадаваленродаўскі» *«Уступ»*, які таксама друкуецца ў зборніку твораў Адама Міцкевіча, падрыхтаваным да друку ў 1955 г. Янкам Брылем і Максімам Танкам. У гэтым жа зборніку знаходзім яшчэ наступныя пераклады з *«Конрада Валенрода»*: *«Песня»* — пераклад М. Аўрамчыка, *«Аповесць вайдэлота»* — пераклад А. Зарыцкага і *«Альпухарская баллада»* — пераклад А. Вялюгіна. Другі зборнік твораў Адама Міцкевіча на беларускай мове, які ў 1969 годзе падрыхтаваў Адам Мальдзіс, паўтарае толькі кароценькі ўрывак *«Конрада Валенрода»* ў перакладзе М. Аўрамчыка. Гэта песня пра закаханыя рэчкі: Вілію і Нёман.

Гэтыя ўрыўкавыя пераклады не давалі беларускаму чытачу нават блізнага ўяўлення аб ідэйна-выхаваўчай і мастацкай вартасці міцкевічаўскага шэдэўра. Дык хвала і прызнанне Пятру Бітэлю за працу адказную, смелую, ды як жа патрэбную!

Як можна меркаваць на аснове апублікаванага ўрыўка, справіўся ён з усімі небяспечнымі пасткамі гэтай творчай працы паспяхова. Верш Міцкевіча ў паэме *«Конрад Валенрод»* апрацаваны на самым высокім мастацкім узроўні. Там кожны герой на кожную аказію свайго жыццёвага становішча мае своеасаблівы рытм і размер паэтычнай страфы, а рыфмы звіняць, бы рыцарская зброя.

Як яно выпала ў Пятра Бітэля? Што ж, параўнайма.

Конрад на польскай мове адзываецца вось так (IV раздзел, «Банкет»):

„Tu róże zwiędły; innego chcę barda,
Zakonnik — rycerz, innej chcę piosenki,
Niechaj mi będzie tak dzika i twarda,
Jak hałas rogów i oręża szczęki,
I tak ponura, jak klasztorne ściany,
I tak ognista, jak samotnik pjany".

Пятро Бітэль пераклаў:

«Тут ружы звялі... Не такога барда
Манаху-рыцару сягоння трэба:
Хай песня льецца з дзікаю пагардай,
Як звон мячоў, як рог узняты ў неба,
Хай будзе змрочнай, быццам
падзямеллі,
Ці як душа самотніка ў пахмеллі».

Словы Конрада на беларускай мове



 

# ВЕСТКІ З КАЛЁНІІ МАСТАЎЛЯНЫ

Калёнія Мастаўляны (Беластоцкі павет) адміністрацыйна належыць да ГРН Ялоўка, у той час, калі вёска Мастаўляны належыць да суседняй грамады Зубкі.

На калёніі пражывае 49 сем'яў. Гаспадараць яны на 700 гектарах зямельных угоддзяў, і варта дадаць, што гаспадараць добра. Перш за ўсё ў 100 працэнтах выконваюць свае планы адносна мінеральных угнаенняў і хімічных сродкаў для ліквідацыі пустазелля. Атрымоўваюць яны ўраджай чатырох асноўных збожжавых культур у сярэднім па 16 цэнтнераў з 1 гектара. Калі прыняць пад увагу той факт, што глеба тут не найлепшая, дык ураджай збожжавых атрымаўся не благі. Сяляне з калёніі Мастаўляны добра выконваюць планы кантрактацыі збожжа. Варта прыгадаць пры гэтым і перадавіка ў гэтым мерапрыемстве. Гэта Антон Бачынскі, член партыі; у 1969 годзе ён кантрактаваў 2,5 га жыта пры стане 8 га ўсіх уласных зямельных угоддзяў, а ў гэтым годзе закантрактаваў 2 га жыта і абавязаўся закантрактаваць яшчэ 1 га грэчкі і 0,5 га лубіну.

Іншая галіна актыўнай і судружнай працы мастаўлянскіх сялян — гэта грамадскія чыны. Жыхары калёніі выканалі іх на суму 30 тысяч злотых. Грамадскія чыны арганізоўвалі яны ў мінулым і ў гэтым годзе, асабліва пры пабудове дарог і дарожных пропускаў.

Актыўнымі з'яўляюцца тут перш за ўсё члены партыі. Каб стварыць для моладзі ўмовы да культурнай разрыўкі, пастанавілі яны адкрыць у сябе клуб. Выкананне гэтага мерапрыемства залежыць аднак ад падключэння электрычнага току да сялянскіх дамоў. Даволі часта члены партыі абмяркоўвалі на сваіх сходах працу мясцовага сельскагаспадарчага гуртка. Гурток працуе не рэнтабельна. Часта змяняюцца ў ім прэзасы, але не відаць, каб ішло на лепшае. Вінаваціць трэба праўленне гуртка, якое не праяўляе вялікага зацікаўлення сельгасгурткоўскімі справамі. Сяляне ахвотна карыстаюцца ўласнымі і сельгасгурткоўскімі машынамі. Задумалі яны расшырыць кантрактацыю лубіну, сырадэлі і насеннай бульбы, паколькі гэтыя культуры ўдаюцца на іх глебах. З кожным годам збіраюць яны ўсё больш падсевак і робяць кішонкі. Спосабы гэтыя прымяняюць у сябе з мэтай, каб павялічыць і ўзбагаціць кармавую базу.

*Янка Цялушэцкі*

# КОЛЬКІ ЧЫТАЮЦЬ

Добра працуе паштовая ўстанова ў Ялоўцы (Беластоцкі павет). Ужо больш 20 гадоў працуюць тут нязменна начальнік пошты Юзэф Урвановіч і пісьманосцы Мікалай Валько і Казімір Гудэль. Па 15 гадоў працуюць пісьманосцы Станіслаў Кавалеўскі і Сцяпан Урвановіч. Пошта мае 680 падпісчыкаў газет і часопісаў. Найбольш чытаюць у ялоўскай акрузе «Газету Беластоцкую» — 108 экзэмпляраў, «Грамаду Рольнік Польскі» — 104 экз., «Аграноміо» — 65 экз., «Ніву» — 49 экз. і «Хлопску Дрогу» — 19 экз. Ц. Я.

трапна адлюстроўваюць мрочныя, бурлівыя душэўныя перажыванні гэтага літвіна, якому ўдалося авалодаць тронам магістра крыжаносцаў. Адважуся сказаць, што для мяне гэтая страфа на беларускай мове гучыць болей рытмічна, болей дынамічна, чым арыгінал. У падтрымку майго адчування мог бы прыводзіць я яшчэ і іншыя строфы перакладу.

Не ўсё, на жаль, удалося Пятру Бітэлю. У гэтым урыўку, што надрукаваў «ЛіМ» (150 радкоў), знайшоў я некіх 10—12 месц, дзе пераклад кульгае, або перадае сэнс арыгіналу не зусім трапна, а нават яго выкрыўляе. Напрыклад, у арыгінале:

„Jakim językiem poproszą o wsparcie?
Czy w ich niemieckiej barbarzyńskiej mowie
Głos dzieci swoich uznają przodkowie?"

Значыць, для Міцкевіча *варварская* і *нямецкая* — гэта адна і тая ж самая мова. Перакладчык расдзяліў гэтыя два прыметнікі і пераклаў вось так:

«І як у іх папросяць дапамогі —
У варварскай ці мо нямецкай мове?
Што будзе ў родзічаў адказе-слове?»

Дык выйшлі дзве мовы: *варварская* і *нямецкая*, а затым радок з гэтым «*адказам-словам*» вельмі непаэтычны.

На аналіз іншых хібаў не хапае нам месца. Іх лёгка можна выявіць, уважна прааналізаваўшы арыгінал і пераклад.

*В. Рудчык*




Партыйная арганізацыя грамады Гураны ўсё лепей выконвае функцыю палітычнага кіраўніка, штораз большы мае ўплыў на жыхароў вёсак. Гэта выразна паказаў справаздачна-выбарчы сход, які адбыўся 15-га лістапада. Справаздача грамадскага камітэта ахоплівала амаль трохгадовы перыяд дзейнасці. За гэты час адбыліся вялікія змены ў апрацоўцы зямлі ва ўсіх 10-ці вёсках грамады, бо ліквідавалася цераспалосіца і сяляне гаспадараць на шырокіх кавалках зямлі. У той жа час адбываўся хуткі працэс механізацыі сельскай гаспадаркі. У паасобных сельскагаспадарчых гуртках машына-трактарны парк значна павялічыўся. Здольны ён зараз выконваць паслугі для ўсіх жыхароў вёскі. Прыкладам можа тут паслужыць сельскагаспадарчы гурток у Паўднёвым Востраве, які ў 1967 годзе не меў аніводнага трактара, а зараз ёсць іх 7. Ёсць таксама неспатыканая дагэтуль машына на нашых палях — камбайн. І таму членам сельгасгуртка ў Паўднёвым Востраве апрача сваіх гаспадарак пад сілу апрацоўваць 195 га зямлі з дзяржаўнага фонду, а сельгасгуртку ў Гуранах — 90 га. Справаздачны даклад, які чытаў першы сакратар КГ Іван Аляксеюк, дакладна паказваў дасягненні ў механізацыі вёскі, у сельскагаспадарчай вытворчасці і ролі ва ўсім гэтым членаў партыі, ініцыятыўнасць якіх праяўляецца ва ўсім складаным штодзённым жыцці. Некалькі прыкладаў. Дзякуючы членам партыі ў Нетупе, адкрыта ў вёсцы крама, у Паўднёвым Востраве перабудоўваецца маставая, а жыхары Гуран шмат грамадска папрацавалі пры будове дарогі. Члены партыі ўзначальваюць сельскагаспадарчыя гурткі, з'яўляюцца солтысамі вёсак і выконваюць шмат іншых функцый у грамадскіх арганізацыях. Усё гэта прычыняецца да росту аўтарытэту партыйных арганізацый, у склад якіх уваходзяць найлепшыя людзі вёсак.

Побач з дасягненнямі ёсць таксама шмат недахопаў у дзейнасці грамадскага камітэта ў Гуранах. Але добра, што члены партыі бачаць гэтыя недахопы і аб іх гаварылі на справаздачна-выбарчым сходзе. Галоўным недахопам з'яўляецца шчупласць партыйных радоў. У грамадзе на 10 вёсак існуе толькі тры ПОП: у Гуранах, Нетупе і Паўднёвым Востраве. Неабходна разбудаваць партыйныя арганізацыі і ўтварыць іх ва ўсіх вёсках. Аб гэтым гаварыў Іван Аляксеюк. Падкрэсліваў ён таксама значэнне грамадскіх чынаў пры будове дарогі да Гуран, якая адкрые даезд аўтобуса ПКС-у. Іван Чабан звярнуў увагу на тое, што КГ не цікавіцца дзейнасцю гурткоў Беларускага таварыства, і запрапанаваў, каб члены партыі аказвалі ім дапамогу ў культурна-асветнай дзейнасці. Мікола Куклік, між іншым, прысвяціў сваё выступленне ролі асабістага прыкладу члена партыі ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Паказаў ён, як члены партыі выконваюць план абавязковай куплі мінеральных угнаенняў. Некаторыя з іх, як Кішыцкі і Курза, занядбоўваюцца ў гэтым. Барбара Герасімюк гаварыла аб неабходнасці паскарэння электрыфікацыі Нетупы і аб патрэбе большага ўплыву школы на вясковае асяроддзе, а прадстаўнік павятовага камітэта ПАРП у Саколцы Ян Зэмбовіч, між іншым, звярнуў увагу на слабую кармавую базу грамады Гураны і на слабое выкананне праграмы ўгнаення палёў.

Справаздачна-выбарчы сход паказаў, што партыйная арганізацыя ў Гуранах стаіць на ўзроўні сваіх абавязкаў, што здольная пазбыцца тых ці іншых недахопаў у сваёй дзейнасці, што члены партыі разумеюць сваю адказнасць за ўсё тое, што дзеецца ў грамадзе, і з душой адносяцца да вырашэння дзяржаўных пытанняў, а апрацаваная праграма дзейнасці КГ накіравана на ўсе найважнейшыя праблемы свайго асяроддзя.

*М. Хмялеўскі*

# АСВЕТНА-ПАЛІТЫЧНЫЯ КУРСЫ

У лістападзе г.г. пачаліся асветна-палітычныя курсы для моладзі. Моладзь з Беластоцкага павета будзе праходзіць заняткі на 73 праблемных курсах пад загалоўкам «Сучасная вёска». Прыме ў іх удзел 1247 асоб. Арганізатарамі курсаў з'яўляюцца аддзел асветы і павятовае праўленне ЗМВ. Выкладчыкамі курсаў будуць настаўнікі.

Другою формай шкалення будуць тэматычныя сходы. Будзе праводзіцца дыскусія на тэму «Як працуе наш сельскагаспадарчы гурток», «Хто наш герой!», «Рабоча-сялянскі саюз». Апрача гэтага, будуць у павеце 173 курсы на асветныя і палітычныя тэмы. ЗМВ-оўская моладзь прыме ўдзел у партыйнай адукацыі ПАРП і ЗСЛь. (цц)

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і наніжы старонкі на дроцікі або шнурочак.*

○ БІБЛІЯТЭЧКА „НІВЫ" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ ○

41.

Падышоўшы да адной з такіх ямін, хлопцы заўважылі, як у вадзе шмыгнула нешта цёмнае. Не паспелі прыглядзецца, як каля берага паказалася бліскучая цёмна-бурая круглая галава з белай плямай на носе. У роце незнаёмы „злодзей" трымаў рыбіну.

— Выдра! — крыкнуў Віктар, але галава схавалася раней, як ён скончыў тэтае слова. — Ах, паганая! Яна ўсю нашу рыбу зжарэ! Тым болей, што яна часта адгрызае толькі спіну, а рэшту кідае.

— Будзем тады лавіць яе разам з рыбай, — прапанаваў Мірон.

— Ну не, брат, яна не такая дурная. Яе толькі ў пастку можна злавіць, ды і то трэба паставіць каля нары. А нара мае два выхады: адзін наверх, а другі пад ваду. Аднаго разу чатыры чалавекі па чарзе пільнавалі выдру шэсць тыдняў і не маглі злавіць. У кожным разе, трэба хоць прагнаць яе.

Хлопцы раздзеліся і падрыхтавалі сваю „сетку".
А можа, укусіць яшчэ гэты драпежнік? — прамовіў Мірон.

— Калі загнаць яе ў кут, то яна можа і кінуцца, а так не адважыцца.

Калі хлопцы падышлі да сярэдзіны лужыны, дык убачылі, што на беразе, сярод травы, слізганула доўгае, на кароценькіх ножках цела выдры. Спіна была цёмна-бурая, а спод — святлейшы.

— Эх, дабро ўсякае! — з жалем сказаў Віктар. — Адна скура чаго варта! Рублёў трыста можна атрымаць.

— Ого! А есці яе можна? — запытаўся Мірон.

— Можна, і нават мяса добрым лічыцца.

— Пашукаем тады яе нару.

— Нары, мусіць, тут і няма. Яна робіць яе каля вады. А гэтая вада выпадковая, часовая.

— Шкада, — уздыхнуў Мірон. — Давай тады лавіць сваю ўласную рыбу.

„Уласнай" рыбы налавілі лёгка, у дадатак яшчэ выцягнулі некалькі камякоў нейкага кісялю з чорнымі крупкамі.

— Гэтая жабіная ікра толькі кашулю запаскудзіць. — сказаў Мірон, з гідлівасцю адграбаючы гэты кісель.

Ідучы назад, яны зайшлі ў лес пашукаць яшчэ журавін і ў адным кутку, сярод густога ельніку, знайшлі прытульную пляцоўку, пасярод якой было нацярушана шмат свежага пер'я.

— Загінула ад драпежніка нейкая птушка, — прамовіў Мірон.

Віктар агледзеў мясціну, перагледзеў пер'е, то чорнае, то чорнае з белым, то стракатае, і нарэшце сказаў.

— Не, тут ніхто не загінуў. На гэтым месцы цецярукі збіраюцца такаваць, гуляюць, б'юцца. Гэтае пер'е і ёсць вынікі іхняй бойкі. Каб паляўнічыя знайшлі такое месца, зараз жа зрабілі б тут засаду.

— А можа, і нам зрабіць?

— А што ты зробіш з голымі рукамі? Цецярук асцярожны. Паляўнічыя звечара робяць буданы і цярпліва

43.

Параскладалі сілы сярод палянкі, замацавалі канцы вярнуліся назад і паляглі спаць.

Віктар прачнуўся апоўначы і чакаў раніцы каля вогнішча. Ледзь зашарэла на ўсходзе, ён разбудзіў Мірона, і яны ціхенька накіраваліся ў лес.

Яшчэ здалёк пачуліся ў тым баку гоман, пляскание, балбатанне, нібы там сабраўся нейкі натоўп. Потым выразней пачуліся гукі — чуфф-фы, чушш! Чуфф-фы, чушш!

Хлопцы паўзлі наперад не дыхаючы, сэрцы іх калаціліся.

Падпаўзлі. Зірнулі. На палянцы білася некалькі пар цецерукоў ды так, што толькі пер'е ляцела ва ўсе бакі. Асабліва вызначаўся стары такавік, чорны з белымі палосамі на крылах. Навакол, па галінах сядзелі рабыя цяцёркі і глядзелі на гэтае спаборніцтва, якое адбывалася выключна дзеля іх.

Яны крыкамі падбадзёрвалі байцоў, а тыя стараліся з усіх сіл, каб паказаць сябе перад красунямі.

Усё гэта хлопцы заўважылі адным зіркам, а калі прыгледзеліся пільней, то ўбачылі, што ў двух цецерукоў ужо заблыталіся ногі і яны бездапаможна бараніліся ад сваіх ворагаў. Вось зачапіўся і стары такавік, трывожна закрычаў, забіў крыламі і вырваўся.

— Бяжым! Каб і тыя не вырваліся! — шапнуў Віктар.
Лопат крылаў аглушыў хлопцаў. Спалоханыя птушкі мігам зніклі. А ў руках таварышаў засталіся два добрыя цецерукі, кіло па два вагою.

X.

**Гаспадарка. — «Гліняная паэма». — Старыя знаёмыя. — Воўк. — Палявалі на ліса, а забілі... — Павелічэнне статка.**

Цяпер ужо спажывы было дні на чатыры. Але зноў бяда: як яе захаваць, каб не папсавалася?

— Давай склеп рабіць, — не то жартам, не то сур'ёзна сказаў Віктар.

— Галоўнае не ў склепе, а ў солі, — адказаў Мірон.

— Тады давай сушыць на сонцы ды вэндзіць мяса, як гэта робяць іншыя ў такіх выпадках.

— Гэта было б добра, але як разрэзаць яго на тонкія лустачкі?

— Ну, тады давай будаваць клетку, — сыпаў прапановы Віктар.

— А! — сцяміў Мірон. — Гэта ўжо іншая рэч.

І сапраўды: цецерукі былі жывыя, значыцца, лепш за ўсё было захоўваць іх жывымі.

— У такім разе, пакуль ёсць рыба, мы абодвух будзем гадаваць, — сказаў Мірон, — а дзеля гэтага зробім маленькі хлеўчык.

— Нават і не надта маленькі, бо, можа, і яшчэ завядзецца якая жывёліна, напрыклад, дзікае парася, заяц, мядзведзяня.

42.

чакаюць усю ноч. У іх стрэльбы. А мы што будзем рабіць? Рукамі іх не зловіш.

— А калі напэўна вядома, што яны на гэтым месцы будуць скакаць ды біцца, то можна ім петлі параскідаць.

— Гэта іншая справа. Варта падумаць.

Усю дарогу яны меркавалі: з чаго зрабіць петлі?

І нічога не маглі прыдумаць, апрача таго, што прыйдзецца ахвяраваць Віктараву споднюю кашулю. Але і тут была небяспека, што ахвяра можа быць бескарыснай. Для такіх петляў трэба калі не конскі волас, то прынамсі тонкі і моцны шпагат. Тонкія вяровачкі з старых, трухлявых нітак будуць занадта слабыя, а з пасмаў кашулі — зусім нягодныя. Так падышлі да дому і нічога не вырашылі.

Тут Мірон зірнуў на змяіную скуру, якая сушылася на галіне, раптам спыніўся і крыкнуў:

— Вось хто нам дапаможа! Парэжам гэтую скуру на тоненькія паскі, і яны будуць не горшыя валасінкі.

— Праўда! — падхапіў Віктар. — Цяпер я бачу, што ўсё на свеце можна абярнуць на карысць чалавека.

Хутка згатавалі сабе абед і не марудзячы ўзяліся за змяіную скуру. Але зараз жа і апусцілі рукі... Ну як было парэзаць яе, ды яшчэ на тонкія пасачкі, без нажа? Віктар ледзь не заплакаў.

— Гэта ж вечная пакута! — скардзіўся ён. — Усё ідзе добра, з кожнага становішча можна знайсці выхад, усё можна абярнуць на сваю карысць, і на кожным кроку адна перашкода — нож! Які дурань трымае нож у торбе? Каб я ведаў гэта, дык сам палажыў бы сабе ў кішэню. Праз цябе ўся пакута!

— Чаго заскуголіў? — агрызнуўся Мірон. — Я сам заўсёды трымаю нож у кішэні. Але ж ці не звычайная справа, адрэзаўшы хлеба, палажыць разам з ім і нож? І я, каб ведаў, што праз цябе перакулімся, дык таксама ўзяў бы нож у кішэню. Ды і позна ўжо пра гэта казаць — нічога не паможа. Лепш набяромся цярплівасці ды пачнём калупаць чым можна. Часу хапае.

І пачалі «калупаць». І спражкай, і трэскай, і касцямі рыб, і вострым гузікам. А Віктар дадумаўся яшчэ распаліць сваю спражку на агні ды ёю смаліць. Усё разам, — а больш за ўсё цярплівасць, — пачало даваць вынікі. А першыя вынікі дадалі бадзёрасці, ўпэўненасці і яшчэ раз цярплівасці. Спачатку яны разрэзалі змяіную скуру ўздоўж напалам, а тады ўжо кожны працаваў над сваёй паловай. Шэсць гадзін карпелі яны над гэтай працай, і, нарэшце, зрабілі тое, што было ім патрэбна.

— Гэта ж самыя дасканалыя сілы ў свеце! — цешыўся Віктар з свае працы.

Зараз жа і панеслі іх на месца. Цікава было папільнаваць, як пойдзе справа, але раздумаліся, што не варта пакутаваць усю ноч.

— Дапамагчы справе мы нічым не можам, — казаў Віктар, — а спудзіць можам. Толькі каб устаць заўтра як мага раней.

44.

— Карова, авечка! — перадражніў Мірон.

Як бы там ні было, а катушок будаваць трэба. Так парашылі хлопцы. І лепш за ўсё было прыбудаваць яго да шалаша. Тут яшчэ раслі кусты, з якіх можна было зрабіць «зруб». Форма будынка залежала не ад будаўнікоў, а ад таго парадку, у якім раслі кусты. Але гэта нічога не абыходзіла. У параўнанні з хатай пабудова катуха была ўжо лёгкай справай, і не болей, як праз гадзіну, ён быў гатовы.

Найбольш сур'ёзным аказалася пытанне з дзвярыма. Рабіць і прыстасоўваць так, каб яны зачыняліся і адчыняліся, без нажа было цяжка і марудна.

— Дык і не трэба турбавацца! — сказаў нарэшце Мірон. — Пасадзім і запляцём іх зверху. Калі трэба будзе, расплящём і выцягнем.

— А што ты будзеш рабіць з большымі жывёламі? — сур'ёзна сказаў Віктар.

Мірон зірнуў на яго, не разумеючы, жартуе той ці не, і сказаў:

— Ну, калі трапіцца цяля ці авечка, тады пабудуем хлеў з бярвенняў, на завесах, з замком.

— А чым карміць гэтых цецерукоў?

— Ды почкамі, маладым лісцем.

Такім чынам у іх гаспадарцы завялася першая жывёла.

Цяпер самым балючым пытаннем пасля нажа застаўся гаршчок. Гэтулькі дзён яны не елі нічога гарачага, калі не лічыць рыбы і мяса.

— Не, трэба ісці шукаць гліны! — рашуча сказаў Віктар. — Гэта ж сорам не знайсці такога дабра!

— Ты не кажы пра яе з такой знявагай, — сказаў Мірон. — Мы прывыклі так на яе глядзець толькі таму, што яе ў нас шмат, ды мы яе не выкарыстоўваем як належыць. На ёй можна развіць вытворчасць цэглы, чарапіцы, падземных труб. Хай замест драўляных дамоў усюды будуць камяніцы; хай замест саламяных і нават іржавых жалезных дахаў усюды будуць чарапічныя; хай усюды будуць пракладзены трубы для вады, каналізацыі, асушкі зямлі — і тады ўбачыш, што такое гліна.

Узялі на плечы свае дубіны і пайшлі. У Віктара аж рукі свярбелі, калі ён браў сваю «вожыкавую булаву».

— Эх, каб трапіць на якога добрага ворага! — казаў ён.

— Не надта рызыкуй, — стрымліваў Мірон. — Не думай, што твае калючкі небяспечныя для ўсіх.

Бліжэйшыя месцы былі ім ужо знаёмы, таму яны накіраваліся глыбей у лес. Пасля змрочнага бору, бадай што аднолькавага ва ўсе поры года, яны выйшлі ў шырокую сонечную зялёную лагчыну. Трава тут ужо вырасла настолькі, што хоць касі яе. Бяроза, альха, арэшнік, крушына шамацелі сваімі лісцямі, як улетку. То тут, то там над імі ўзвышаліся дубы, ліпы або адзінокія сосны з шырокімі верхавінамі. Здавалася, і сонца тут грэе мацней, чым там, на беразе.

"Беларуская песня-71"

# БАЛАДА АБ ПАРТЫЗАНЦЫ ГАЛІНЕ




Над ракою ў спакою
Расцвітала каліна,
А ў сяле за ракою
Вырастала дзяўчына.

На каліну — маліну
Прылятала зязюля,
Да дзяўчыны Галіны
Прыглядаўся Януля.

За ракой, дзе Галіна,
Сенажаці касілі,
А ў сяле, дзе Януля,
У паход затрубілі.

Перастала каліна
У цвяточкі ўбірацца,
Перастала Галіна
З сваім мілым відацца.

Бедавала зязюля,
Што цвяточкаў не стала.
Бедавала матуля,
Што дзяўчына прапала.

Падняла восень хвалі
У рацэ пад калінай,
Пайшлі ў бой партызаны —
Там была і Галіна.

# ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

*Сл. А. Русака,* *Муз. У. Алоўнікава*




Ой, бярозы ды сосны,
Мае родныя сёстры,
Ой, шумлівы ты, лес
малады!
Толькі сэрцам пачую
Тваю песню лясную,
І ўспомню былыя гады.

Ды ўспомню пажары,
І варожыя хмары,
І завеі халодных вятроў,
І слату, і нягоды,
І начныя паходы,
І агні партызанскіх
кастроў.

Край любімы мой, родны,
Ты навекі свабодны,
За цябе я на бітву хадзіў,
Каб ніколі, ніколі
Ты не быў у няволі,
Каб прыгожымі кветкамі
цвіў.

Адышлі тыя годы,
Адгрымелі паходы,
Толькі пушча за полем
шуміць.
Ой, бярозы ды сосны —
Партызанскія сёстры,
Вас ніколі ў жыцці
не забыць...

КУТОК ГАСПАДЫНІ

ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

# РОЗНЫЯ ПАТРАВЫ З ГУСЯЦІНЫ

Падрыхтаваўшы гусака апісаным у папярэднім нумары спосабам, можна раздзяліць яго на паасобныя часткі і варыць з яго розныя патравы.

*Гусіны суп.* На гэты суп патрэбны нам перш за ўсё гусіныя падробы (жaлудак, сэрца і пячонка), 2—3 сушоныя грыбкі, валашчына (морква, пятрушка, селер і пора). Грыбы трэба на некалькі гадзін намачыць. Пасля дадаць да іх падробы, валашчыну і адпаведную колькасць вады, палажыць некалькі зёран перцу, пасаліць. Варыць, пакуль мяса не стане мяккае. Пасля суп працадзіць, з мукі і тлушчу зрабіць засмажку, развесці яе булёнам, закіпяціць, дадаць дробна нарэзаныя падробы, грыбкі і «зацягнуць» суп жаўтком, змешаным з некалькімі лыжкамі смятаны. Дадаць нарэзанай зеляніны. Да гэтага супу можна падаць грэнкі, французскія клёцкі ці рыс.

*Гусіная шыйка.* З шыі зняць асцярожна скурку; падрыхтаваць фарш: 25 дэкаў (250 г) змеленай тлустай свініны змяшаць з пасечанай гусінай пячонкай, дадаць сырое яечка, соль, перац, хто любіць — майранак, 1 лыжку молатых сухароў (цёртай булкі). Накласці фарш у знятую шыйку не вельмі поўна, бо ён падрасце, зашыць шыйку з абодвух бакоў і смажыць яе ў духоўцы разам з гускай. Можна таксама зварыць шыйку ў булёне. Падаваць з варанай бульбай і салатай. Можна есці і халодную шыйку. Найлепш зрабіць з ёю бутэрброды.

*Галярэта (халоднае) з гусіных ножак.* На галярэту трэба ўзяць гусіныя ножкі, а можна ўзяць і гусіны хрыбет. Мяса заліць у каструлі вадой, дадаць моркву, пятрушку, селер, цыбулю, некалькі зёран перцу, пасаліць. Варыць накрытае, пакуль мяса не стане мяккае. Ножкі і мяса выняць з навару, аддзяліць мяса ад касцей, а косці ўлажыць назад у каструлю і варыць, пакуль аж не застанецца ў каструлі 1/2—3/4 літра навару. Пасля гэтага навар трэба працадзіць і распусціць у ім намочаныя раней 2 лыжкі жэлаціну. Нарэзанае мяса палажыць у салатніцу, палажыць некалькі нарэзаных кавалачкаў варанай морквы і кансерваванага агурка, заліць усё гэта гарачым наварам і паставіць, каб застыла.

*Гусіны тлушч да хлеба.* Да гусінага тлушчу бярэм 2—3 вінныя яблыкі, 2 цыбуліны, соль, перац, майранак. Яблыкі абіраем, выразаем сярэдзіну, дробна рэжам, пасля кладзем у каструльку, падліваем крыху вады і тушым, каб стала аднастайная маса. Нарэзаную цыбулю тушым з 2 лыжкамі гусінага смальцу. Дадаем тушаныя яблыкі і смажым яшчэ пару мінут, дадаючы соль, перац, і, хто любіць, майранак. Пакінуць, каб тлушч застыў.

*Гаспадыня*

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

У час гэтага абеду шмат увагі ўдзялялася тэмам гастранамічным. Рузвельт цікавіўся асаблівасцямі каўказскай кухні, і ў гэтай галіне Сталін, натуральна, праявіў сябе тонкім знаўцам. Потым ён напомніў, што ў час мінулага снедання Рузвельту асабліва спадабалася ласасіна.

— Я распарадзіўся, — працягваў Сталін, — каб сюды даставілі адну рыбку і хачу вам яе цяпер прэзентаваць, пан прэзідэнт.

— Гэта цудоўна, — усклікнуў Рузвельт, — вельмі крануты вашай увагай. Мне нават нямёмка, што, пахваліўшы ласасіну, я міжволі нарабіў вам турбот...

— Ніякіх турбот, — запярэчыў Сталін. — Наадварот, мне было прыемна зрабіць гэта для вас.

Звяртаючыся да мяне, сказаў:

— Перадайце, там у суседнім пакоі, няхай прынясуць рыбу, якую сёння даставілі самалётам.

Выканаўшы даручэнне, я вярнуўся да стала. Рузвельт у гэты час гаварыў аб тым, што пасля вайны адкрыюцца шырокія магчымасці для развіцця эканамічных адносін паміж Злучанымі Штатамі і Савецкім Саюзам.

— Безумоўна, — працягваў прэзідэнт, — вайна нанесла Расіі велізарныя разбурэнні. Вас, маршал Сталін, чакаюць вялікія аднаўленчыя работы. І тут Злучаныя Штаты з іх эканамічным патэнцыялам могуць аказаць вашай краіне істотную дапамогу. Мяркую, мы маглі б прадставіць Савецкаму Саюзу, пасля нашай сумеснай перамогі над дзяржавамі асі, крэдыт у некалькі мільярдаў долараў. Зразумела, гэта яшчэ толькі агульная наметка. Усё гэта яшчэ трэба абмеркаваць у адпаведных сферах, але ўвогуле такая перспектыва здаецца мне зусім рэальнай.

— Вельмі ўдзячны вам за гэту прапанову, пан прэзідэнт, — сказаў Сталін. — Наш народ церпіць вялікія нягоды. Вам цяжка ўявіць разбурэнні на тэрыторыі, дзе пабываў вораг. Страты, нанесеныя вайной, вялізныя, і мы натуральна вітаем дапамогу такой багатай краіны, як Злучаныя Штаты, калі, зразумела, яна будзе суправаджацца прыймальнымі ўмовамі.

— Я ўпэўнен, што нам удасца аб гэтым дамовіцца. Ва ўсякім разе, я асабіста паклапачуся аб гэтым, — адказаў Рузвельт.

У гэты момант у пакой увайшоў дзяжурны афіцэр аховы і спытаў, ці можна ўнесці пасылку. Атрымаўшы згоду, ён знік, а Сталін сказаў:

— Зараз прынясуць рыбку.

Усе павярнуліся ў бок дзвярэй, з якіх праз некалькі імгненняў з'явіліся чатыры рослыя хлопцы ў ваеннай форме. Яны неслі рыбіну метры ў два даўжынёй і паўметра ў дыя-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАКРЫЎДЖАНАЯ СТАРАСЦЬ

Большасць жыхароў Беластока — гэта выхадцы з вёсак. Яны жывуць тут даўно, працуюць даўно і пра вёску амаль забыліся. Ёсць выпадкі, што некаторыя забываюць аб чалавечай годнасці, аб належных адносінах да старых бацькоў.

А вось адзін з выпадкаў. Бацька сам хацеў, каб два яго сыны і дзве дачкі пайшлі ў горад. Дапамагаў матэрыяльна, каб маглі атрымаць яны прафесію, пасля прадаў сваю вялікую і добрую гаспадарку з хатаю і добрымі гаспадарчымі будынкамі толькі таму, каб замужняй дачцы і жанатаму сыну дапамагчы пабудаваць у Беластоку ўласныя дамы.

Але каб не было крыўды другой дачцы і другому сыну, бацька, прадаўшы ўсё, раздзяліў грошы па-роўнаму ўсім сваім дарослым дзецям. Сабе нічога не пакінуў.

— Навошта мне, старому, грошы — думаў ён. — Я буду жыць пры сваіх дзецях. Ім цяпер добра жывецца і, напэўна, мне заўсёды міску стравы і начлег дадуць.

І не спадзяваўся стары, што ён будзе самым зненавіджаным чалавекам у кожнай сям'і сваіх жанатых дзяцей. Доўгі быў спор, хто яго возьме ў хату. І пастанавілі, што дзядуля будзе жыць у кожнага па два тыдні. І так ёсць. Дзядуля не мае свайго сталага кутка, свайго ложка, сваёй хаты. Вандруе ад сына да сына, ад дачкі да дачкі. Нідзе яго не любяць. Усюды абражаюць.

— Мамы дзяда в дому, — гаворыць дачка, якая мае пабудаваную хату, дзякуючы бацькавай дапамозе. І гэтая ж дачка не дае бацьку есці таго, што навырыць свайму мужу і дзецям. Для свайго бацькі варыць асобна.

Аднойчы сабраліся ўсе дарослыя дзеці і вырашылі бацьку аддаць у дом старцаў. Але пасля даведаліся, што на яго ўтрыманне ўлады будуць адлічваць з іх зарплаты. На гэта ніхто не згадзіўся.

І так далей працягваецца пакрыўджаная старасць бацькі, які з такой клапатлівасцю, чуллівасцю гадаваў сваіх дзяцей. А гэтыя дзеці чакаюць яго смерці. Ён жа гэта бачыць і таму асабліва цяжка пераносіць такое паніжэнне ад сваіх родных дзяцей.

*М. Сваяк, Беласток*

## ДАРОГІ І ВУЛІЦЫ

Згодна з гаспадарчым планам на 1971 год у грамадзе Храбалы, што на Бельшчыне, будзе праведзены рамонт дарог і мосцікаў на шляхах: Гацькі—Райск, Райск—Плюцічы, Храбалы—Райск, Райск — Арэхавічы, Рэпнева—Малыя Грыневічы. Укладаць брук пачнуць у Кнаразах і Райску. На гэтыя работы прэзідыум ГРН са свайго фонду прызначыць 180.000 зл. ГРН разлічвае таксама, што нямала папрацуюць самі сяляне. Мяркуецца, што вартасць грамадскіх дарожных чынаў перавысіць суму 12.000 зл.

*Аляксандр Трафімчук, Храбалы*

## У НАВАСАДАХ

Гурток Саюза сялянскай моладзі ў Навасадах (Беластоцкі павет) 20-га лістапада на сваім справаздачна-выбарчым сходзе падсумаваў працу гуртка за мінулую кадэнцыю і апрацаваў план дзеяння на 1971 год. Удзельнікі сходу выбралі новае праўленне гуртка на чале з Ядвігай Даманоўскай.

*

У пачатку лістапада ў Навадворцах арганізаваўся гурток вясковых гаспадынь. Старшынёю гуртка жанчыны выбралі кіраўніка мясцовага клуба Крыстыну Борхэрт. Гурток пастанавіў арганізаваць два курсы: крою і шыцця, а таксама кулінарны курс.

*Рыгор Лісавец*
*Беластоцкі павет*




*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 16 год. Вучуся я ў сярэдняй школе ў недалёкім горадзе, а сама паходжу з вёскі. Было гэта на канікулах. Я сустрэла хлопца, які прыехаў у нашу вёску. Ён мне вельмі спадабаўся. Яго завуць Вася і яму 18 год. Мы разам з ім пайшлі на забаву ў клуб. Потым яшчэ мы сустракаліся некалькі разоў. Па нейкім часе мне стала ясна, што я пакахала Васю. Цяпер хацела б хутчэй яго ўбачыць, але гэта не так проста, таму што Вася таксама вучыцца і жыве ў другім горадзе.

Парай, Сэрцайка, як даведацца, ці Вася мяне кахае, ці не. За параду буду вельмі ўдзячна.

*Зіна з Бельскага павета*

*Зіна!* Цяжка мне на падставе твайго лісту сказаць, што думае пра цябе Вася. Ты пішаш аб сабе, але амаль нічога не напісала аб Васіных адносінах да цябе, якія б нам што-небудзь сказалі аб яго пачуццях да цябе. Веру, што ты б хацела ўбачыць хутка Васю, што думаеш аб ім, аднак не гэта павінна быць найважнейшае. Найважнейшая ў вас жа цяпер навука, вы ж вучыцеся ў сярэдніх школах, дзе работы шмат. Тады ці не лепш было б і думкі аб Васі, і сустрэчу з Васяй адлажыць на зімовыя канікулы? А цяпер заняцца навукай. Тым лягчэй гэта, здаецца мне, зрабіць іменна таму, што ты пакахала, як пішаш, Васю. У такой сітуацыі будзь разумная і не толькі сабе, але і Васю не перашкаджай у навуцы, хай гэта пойдзе на карысць для вас абаіх. Што зробіць Вася? Па-першае, калі ты яму спадабалася, напэўна напіша ліст, а па-другое, калі так, дык захоча сустрэцца ў час канікул. Тады чакай, час табе адкажа.

Жадаю поспехаў у навуцы

*Сэрцайка*

## ШЭФ КУХНІ

У кожнай сталовай найбольшую ролю адыгрываюць кухаркі, бо ад іх у асноўным залежыць, ці смачныя блюды ці не. У Бельску Падляшскім у рэстаране «Бяльчанка» шэфам кухні з'яўляецца Еўдакія Навакоўская. У кухні працуе яна ўжо ад 1962 года. Яна закончыла двухгадовы кухарскі курс і тады ўзначаліла кухню бельскага рэстарана. Наведвальнікі рэстарана не скардзяцца на абеды, якія падрыхтоўваюцца пад кіраўніцтвам Еўдакіі Навакоўскай. Яна прысвячае таксама шмат часу грамадскай працы. Ад моманту ўтварэння ў Бельску харавога калектыву яна з'яўляецца актыўным яго членам.

*Тэкст і фота*
*Павел Зінкевіч*
*Бельск Падляшскі*

## СЯМ'Я ПАНФІЛЮКОЎ

У вёсцы Дубічы Царкоўныя жылі Панфілюкі. Было іх пяць братоў: Феадосі, Уладзімір, Міхась, Іван і Мяфодзі. Усе яны былі бежанцамі падчас першай сусветнай вайны. Па дарозе ў Расію ў Баранавічах памёр іх бацька. Маці з пяцярыма дзяцьмі заехала аж у Омск. У 1922 годзе ўсе вярнуліся дамоў. Час ішоў, дзеці раслі. У той час разгортвала сваю дзейнасць Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Мяфодзі і Іван уступілі ў яе рады. Дзядзька іх Трахім Панфілюк сядзеў ужо ў турме за рэвалюцыйную дзейнасць. У 1936 годзе Мяфодзі таксама папаў у турму і сядзеў аж да верасня 1939 года. Пры савецкай уладзе на Беласточчыне Мяфодзі Панфілюк працаваў на адказнай пасадзе і быў накіраваны на курсы ў Беларусь, а браты яго Уладзімір, Міхась і Іван пайшлі служыць у Савецкую армію. Знаходзіліся над Бугам, калі напалі немцы на Савецкі Саюз, яны адступалі з баямі, а пасля трапілі ў нямецкі палон, але адтуль далі рады ўцячы. Калі пачалася вайна, Мяфодзі быў у Маскве. Пасля ён з групай дэсантнікаў быў скінуты з самалёта каля Хэлма і там загінуў.

Падчас нямецкай акупацыі Панфілюкі супрацоўнічалі з партызанамі, дапамагалі ім харчавацца і адзявацца. Пасля вызвалення браты Панфілюкі выехалі ў Савецкую Беларусь. У Дубічах Царкоўных застаўся толькі Уладзімір Панфілюк.

*Віктар Бура, Гайнаўка*

## ДЗЕЯЧ ВЁСКІ



Самым папулярным і найбольш шанаваным чалавекам у Чэхах Арлянскіх (Гайнаўскі павет) з'яўляецца Мікалай Корх. З'яўляецца ён солтысам вёскі, радным ГРН і адначасова кіраўніком «Клуба селяніна». Добра ён выконвае ўсе гэтыя функцыі.

Апрача таго, Мікалай Корх многа энергіі ўкладае ў культурна-асветную працу гурткоў БГКТ і ЗМВ.

Нядаўна арганізаваў ён пры дапамозе павятовага праўлення Лігі абароны краіны самаходна-матацыклетны курс, які паспяхова закончылі яго ўдзельнікі.

Яшчэ трэба сказаць аб Мікалаю Корху і тое, што ў яго, як гэта кажуць, залатыя рукі. Усё ён можа зрабіць. Нядаўна ў сябе пабудаваў мураваны хлеў. 100-ую гадавіну з дня нараджэння Леніна Мікалай Корх адзначыў нязвыклай працай. З дрэва выканаў ён бюст Леніна. Скульптура гэта вельмі прыгожа зроблена.

*Мікалай Панфілюк*
*Дубічы Царкоўныя*

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...Жыхары грамады Ялоўка (Беластоцкі павет) прадалі дзяржаве ў мінулым годзе 900 000 літраў малака. Найбольш малака прадалі сяляне з Навасадаў і Залешан — да 200.000 літраў.

...у Ялоўскай грамадзе жыхары карыстаюцца 109 радыёапаратамі, 53 тэлевізарамі і 117 радыёламі.

...у суседняй грамадзе Шымкі жыхары маюць 70 радыёапаратаў і 21 тэлевізар.

(яц)

---

метры. Працэсію замыкалі два повары-філіпінцы і работнік амерыканскай службы бяспекі. Цуд-рыбу паднеслі бліжэй да Рузвельта, і ён некалькі мінут любаваўся ёю. Тым часам амерыканскі дэтэктыў папрасіў мяне даведацца ў яго савецкіх калег, як быў апрацаван ласось, у якіх умовах і як доўга можна яго захоўваць, не падвяргаючы рызыцы здароўе прэзідэнта. Запісаўшы неабходныя звесткі ў блакнот, дэтэктыў выйшаў. За ім выйшла і ўся працэсія з ласосем, хвост якога, гойдаючыся ў такт крокам нібы махнуў нам на развітанне.

Калі ўсе перайшлі ў суседні пакой, дзе падалі кофе, Чэрчыль завёў гаворку аб перамозе савецкай зброі пад Сталінградам.

— Сам Сталінград, — заявіў Чэрчыль, — стаў сімвалам мужнасці, стойкасці рускага народа і разам з тым сімвалам найвялікшых чалавечых пакут. Гэты сімвал захаваецца ў вяках. Трэба, каб будучыя пакаленні маглі ўвачавідку ўбачыць і адчуць усю веліч атрыманай ля Волгі перамогі і ўсе жахі бушаваўшай там знішчальнай вайны. Добра было б пакінуць некранутымі страшэнныя руіны гэтага легендарнага горада, а побач пабудаваць новы, сучасны горад. Руіны Сталінграда, нібы руіны Карфагена, назаўсёды засталіся б своеасаблівым музеем чалавечай стойкасці і пакут. Яны прыцягвалі б паломнікаў з усіх канцоў зямлі і служылі б папярэджаннем будучым пакаленням.

Рузвельту спадабалася ідэя Чэрчыля, і ён сказаў, што было б нядрэнна захаваць руіны Сталінграда для павучання патомкам, хоць, дадаў ён, гэта, зразумела, перш за ўсё справа рускіх.

Усе паглядзелі на Сталіна. Насупіўшыся, ён павольна пацягваў кофе з маленькага кубачка. Затым, не спяшаючыся, паставіў кубак на столік, узяў папяросу з пачка «Герцагавіна флор», закурыў, зацягнуўся і, выпусціўшы тонкі струменьчык дыму, сказаў:

— Не думаю, каб руіны Сталінграда трэба было пакінуць у выглядзе музея. Горад будзе зноў адбудаваны. Можа мы захаваем некранутай якую-небудзь частку яго: квартал або некалькі будынкаў як помнік Вялікай Айчыннай вайне. Увесь жа горад, нібы Фенікс, адродзіцца з попелу, і гэта ўжо само па сабе будзе помнікам перамозе жыцця над смерцю...

Неўзабаве Рузвельт, спаслаўшыся на стомленасць, адправіўся на сваю палавіну. За ім пайшлі і іншыя амерыканцы. Пасля іх адыходу засталіся Сталін, Молатаў, Чэрчыль, Ідэн і перакладчык. Працягвалі піць кофе, курылі цыгары, якімі частаваў Чэрчыль. Зноў абмяркоўвалі перспектывы вайны, прыкідвалі прыблізна тэрміны, у якія можна будзе прымусіць Гітлера безагаворачна капітуляваць. Чэрчыль зазначыў, што ён упэўнен у хуткай перамозе саюзнікаў, і дадаў:

— Я думаю, што бог на нашым баку. Ва ўсякім разе, я зрабіў усё для таго, каб ён стаў нашым верным саюзнікам...

Сталін падняў галаву, хітравата паглядзеў на Чэрчыля, сказаў:

— Ну, а д'ябал, вядома, на маім баку. Таму што, зразумела ж, кожны ведае, што д'ябал — камуніст. А бог, бясспрэчна, прыстойны кансерватар...

(Працяг будзе)

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**
„Jak rozpętałem II wojnę światową" (polski), 22—27.

**ДУБІНЫ**
„Sąsiedzi" (polski), „Zwiadowca" (radz.), 26—27.

**НАРАЎКА**
„Ostatni świadek„ (bułg.), „Profesor zbrodni" (włoski), 23—27.

**НАРВА**
„Dziewczyna z walizką" (włoski), „Francja naprzód" (franc.), 23—27.

**ЧЫЖЫ**
„Most" (jugosł.), „Na miłość nigdy nie jest zapóźno" (węg.), 23—27.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**
„Dziewczyna na rozdrożu„ (bułg.), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 23—27.

**АРЭШКАВА**
„Każdemu swoje„ (włoski), „Paragon gola" (polski), 26—27.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**
„Ruchome piaski" (polski), „Jezioro starej sowy" (NRD), 23—27.

**ОРЛЯ**
„Dzień oczyszczenia" (polski), „Królewski błąd" (czeski), 23—27.

**РАЙСК**
„Czekam w Monte Carlo" (polski), „Czarny wiatr" (meksykański), 23—27.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**
„Niezawodni przyjaciele" (rumuński), 22-23. „Straszliwe skutki awarii telewizora" (czeski), 24—25. „Znaki na drodze" (polski), 26—27.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**
„Hasło bez odzewu" (bułg.), 22—23. „Nie smuć się" (radz.), 24—25. „Znaki na drodze" (polski), 26—27.

**МЕЛЬНІК**
„Taszkient miasto chleba" (radz.), 22—23. „Bestia" (węg.), 24—25. „Wielka miłość" (franc.), 26—27.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**
„Taszkient miasto chleba" (radz.), 22—23. „Los Golfos" (hiszpański), 24—25. „Wielka miłość" (franc.), 26—27.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**
„Album polski" (polski), „I znów z tobą" (węgierski), 23—27.

**НОВЫ ДВОР**
„2 mamy i 2 ojców" (jugosł.), „Tajemniczy mnich" (radz.), 23—27.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7239 W-4

